


# DISTRICTUS
# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ
КРАЯЗНАЎЦАЎ
БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 2 (27)
ЛЮТЫ
2004 г.

## ВЕСТКІ

У памяшканні гістарычна-краязнаўчага музея пачала працаваць выстава "Папяровыя грошы". Прадстаўлена больш за 250 адзінак грашовых знакаў Расійскай імперыі, Польшчы, Германіі, СССР, краін пост-савецкай прасторы, Беларусі. Ёсць вітрыны з сучаснымі банкнотамі розных краін свету. Храналагічны перыяд экспанатаў – канец XIX – пачатак XXI ст. Экспануюцца не толькі самі папяровыя знакі, але і некаторыя іншыя прадметы адпаведных перыядаў – партрэты палітычных дзеячоў, паштоўкі, кашалькі, капілкі. Выстаўлены нават два скарбы: дошка-тайнік ад сялянскага куфэрка з пачкам банкнотаў пачатку XX ст., літровы шкляны слоік з савецкімі банкнотамі ўзору 1961 года на суму 1,5 тысяч рублёў, які знайшлі пасля смерці адзінокай бабулі на пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя.



У Музеі традыцыйнай культуры працуе выстава майстрыхі па аплікацыі з саломкі з г.Глыбокага Дар'і Бельскай. Выстава называецца "Саламяны цуд". Дар'я Бельская – майстрыха вядомая ў нашай краіне, удзельніца многіх прэстыхных выстаў.

Персанальная выстава ў Браславе – другая па ліку. На гэты раз паказваецца звыш 40 прац, сярод якіх шмат новых. 13 лютага Д.Бельская прыехала на ўрачыстае адкрыццё выставы, пазнаёміла прысутных са сваёй творчасцю, адказала на пытанні, а напрыканцы правяла майстар-клас.








**КАСЦЁЛ У СЛАБОДЦЫ**

**Гістарычныя матэрыялы чытайце на с.4-6**

# ВЕСТКІ

У рамках нацыянальнага фестываля “Беларусь мая песня” Браслаўскае музейнае аб’яднанне на 8 лютага прымеркавала адметную выставу “Повязь часоў”.





На выставе, якая дэманстравалася ў раённым Доме культуры, былі прадстаўлены вырабы майстроў Браслаўшчыны. Паводле арыгінальнай канцэпцыі экспанаты прадстаўлялі не толькі ўзровень умельства сучасных майстроў, але і ўмельства даўніх эпох. Спецыялістамі музейнага аб’яднання рэканструяваны адзенне, элементы ўпрыгожванняў, прадметы абіходу, якія рабіліся на Браслаўшчыне ў XI – XIII стст., XVIII – XIX стст. Выстава была высока ацэнена спецыялістамі. Значная частка экспанатаў адабрана для ўдзелу ў абласной выставе народнай творчасці.



Дыпломам 3-й ступені абласнога конкурса календароў памятных дат “Святкуем угодкі” адзначана праца вучаніцы Браслаўскай школы № 1 Тамары Алексій (кіраўнік М.Кахановіч) “Каляндар знамянальных і памятных дат Браслаўскага раёна на 2004 год”. Т.Алексій адзначана таксама Ганаровай граматай Беларускага фонда культуры.



У лік прызёраў гістарычнай віктарыны, якая праводзілася газетай «Звязда» трапілі Таццяна і Міхаіл Корсакі з Браслава. Узнагародай стала экскурсійная паездка ў г.Полацк з адмыслова складзенай праграмай.

## З КАЛЕНДАРА ЗНАМЯНАЛЬНЫХ І ПАМЯТНЫХ ДАТ БРАСЛАЎСКАГА РАЁНА, СКЛАДЗЕНАГА ТАМАРАЙ АЛЕКСІЙ (СШ№1). ПРАЦЯГ. ПАЧАТАК У №1/2004

### 445 гадоў назад кароль і вялікі князь Жыгімонт Аўгуст загадаў перанесці Браслаў

У 1559 г. кароль і вялікі князь Жыгімонт Аўгуст загадаў перанесці Браслаў у больш зручнае месца “над возерам, дзе порт і дарога могуць быць”, а жыхарам вызначыў пэўныя прывілеі ў выплаце падаткаў. Іншыя акалічнасці гэтай справы невядомы, аднак горад застаўся на ранейшым месцы.

Жыгімонт Аўгуст



### 210 гадоў назад быў поўнасцю знішчаны Браслаў

11.05.1794 г. на вуліцах Браслава адбыўся бой паміж паўстанцамі, прыхільнікамі Касцюшкі, і царскімі войскамі, у час якога горад згарэў.



### 85 гадоў назад адбылося паўстанне супраць савецкай улады

У 1919 г. чэрвені-ліпені адбылося ўзброенае паўстанне сялян у шэрагу валасцей Дзісеншчыны і Браслаўшчыны супраць Савецкай улады.



### 30 гадоў помніку на брацкай магіле савецкім воінам і партызанам у г.п.Відзы



Г.п. Відзы, Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан. Пахавана 135 воінаў і партызан, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены помнік: скульптура воіна., а на пастаменце дошка з імёнамі загінуўшых.



### 30 гадоў помніку на магіле ахвяр фашызма ў в.Замошша



Вёска Замошша. Магіла ахвяр фашызму. У 2 км на поўдзень ад в.Замошша. Пахавана 83 жыхары вёскі Рэпаўшчына, закатаваных ці расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1942 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена скульптура жанчыны-маці і стэла з імёнамі загінуўшых.



Пячатка
Жыгімонта Аўгуста

Старадаўняй
Літоўскай Пагоні
не разьбіць,
не спыніць,
не стрымаць!!!

Максім Багдановіч

# З КАЛЕНДАРА ПАМЯТНЫХ ДАТ ВІДЗСКАЙ СШ

### Лютвінскі Леанід
### акцёр, саліст музычнай групы "Белы арол"

*Нарадзіўся ў г.п.Відзы 7 красавіка 1962 г. У сем гадоў пайшоў у школу. Яшчэ ў дзіцячым садку чытаў сябрам казкі.*

*Артыстычныя дадзеныя ў Леаніда праявіліся ў школьныя гады: удзельнічаў у КВЗ, школьным вакальна-інструментальным ансамблі. Пасля заканчэння Відзскай СШ у 1979 г. паступіў у Наваполацкі палітэхнічны інстытут. Але потым лёс зрабіў крыты паварот. Нечакана для сябе і тым больш для маці ён паехаў у Маскву і паступіў у Дзяржаўны інстытут тэатральнага мастацтва. У час вучобы як і многія студэнты працаваў дворнікам, "... быў дворнікам вельмі выхаваным,.... словаахотлівым і да непрыстойнага прыгожым" (часопіс "Красота и мир", 1998 г.)*

*Першыя крокі як акцёр рабіў у вядомым тэатры "Ленком", а затым у тэатры Рамана Віктюка. Леанід іграў у спектаклях "Мадам Батэрфляй", "Служанкі", здымаўся ў кінафільмах. У фільме "Наутілус" сыграў галоўную ролю. Праз некалькі гадоў Леанід Лютвінскі зноў мяняе сваё жыццё – пакідае тэатр і становіцца салістам папулярнай групы "Белы арол".У 2001 г. "Белы арол" выпусціў свой чацверты кампакт-дыск "Добры вечар" з Леанідам Лютвінскім.*

* * *

### Якуб Адамавіч Якубоўскі
### лінгвіст, гісторык, культуролаг, географ, біёлаг

*Нарадзіўся Якуб Якубоўскі 20 красавіка 1932 г. у в.Камаі Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і рамесніка. Хутка сям'я пераехала ў г.п.Відзы Браслаўскага раёну. Пасля заканчэння ў 1950 г. Відзскай сярэдняй школы ён навучаўся ў Мінскім педагагічным інстытуце па спецыяльнасці гісторыя. Пазней, у 1962 г. Якуб Якубоўскі атрымаў вышэйшую адукацыю па спецыяльнасці геаграфія ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, а ў 1989 годзе – па спецыяльнасці беларуская мова і літаратура ў Мінскім педагагічным інстытуце.*

*Працаваў навуковым супрацоўнікам у Інстытуце глебазнаўства, у выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" загадчыкам рэдакцыі геаграфіі і геалогіі. Пры яго ўдзеле была створана 12-томная "Беларуская Савецкая энцыклапедыя", "Энцыклапедыя прыроды Беларусі" у 5-ці тамах, "Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя" у 5-ці тамах, аднатомная "Прырода Беларусі", "Блакітная кніга Беларусі", энцыклапедычныя даведнікі і інш. За выданне "Беларускай Савецкай энцыклапедыі" Я.А.Якубоўскаму ў 1978 г. было прысвоена званне Лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР.*

*Яго любімай прыказкай была: "Трэба працаваць так, быццам працуеш апошні дзень, а жыць так, што збіраешся жыць вечна". Якуб Адамавіч вёў актыўную грамадскую работу, быў членам праўлення Беларускага аб'яднання татараў-мусульман "Аль-Кітаб". У канцы 80-х гадоў ён стаяў ля вытокаў адраджэння беларускіх татараў, у 1991 г. арганізаваў выпуск штоквартальніка "Байрам"на беларускай мове і быў рэдактарам 27 нумароў. Некаторыя артыкулы з часопіса перадрукоўваліся газетамі і часопісамі Татарстана.*

*На працягу апошніх 6 гадоў Я.Якубоўскі вёў тытанічную працу па стварэнню ўнікальнай энцыклапеды "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы", склаў рэестр на 30000 энцыклапедычных артыкулаў. Сам ён напісаў каля 1000 артыкулаў. Ён аўтар слоў гімну беларускіх татараў "Мы з імамам жывем на зямлі Беларусі", уладальнік срэбранага Знака ЮНЭСКА.*

*Памёр Я.Якубоўскі 14 верасня 1998 г. у Мінску. Пахаваны ў г.п.Смілавічы недалёка ад магілы яго бабулі. Яго імя занесена ў кнігу Пашаны "Рупліўцы твае, Беларусь"*

## *Гартаючы старыя газеты*

З Друі, мястэчка ў Віленскім ваяводстве, што на самай поўначы Польшчы, каля мяжы з Латвіяй, да нас пішуць:

Нядзеля, трэці дзень красавіка, а на вуліцы белым-бела ад снегу, як у сярэдзіне зімы. Што праўда – марозу няма, але хмурна, імглістa і халодна... На пачатку сакавіка было некалькі пагожых і цёплых дзён, здавалася, што вясна пачынаецца, снег загінуў. Потым захмурылася і пахаладала. Прайшло некалькі тыдняў, а сонца не відаць. Напрыканцы сакавіка зноў нападала снегу, болей чым на чвэрць локця. Зіма ў нас была доўгай. 22 кастрычніка выпала многа снегу і адразу ўзяўся мароз. У лістападзе яшчэ было некалькі цёплых дзён, часта падаў цёплы дождж, зямля размарозілася і можна было араць. У снежні, студзені і лютым мароз трымаўся ўвесь час, часам ён даходзіў да 20 з нечым паводле Рэамюра. Лёд на Дзвіне крануўся 22 сакавіка. Прыемна было назіраць, як з шоргатам і шумам плылі па рацэ крыгі, церліся аб бераг. Цяпер жа Дзвіна, здасцца, стаіць ціхая, спакойная. Вада спала, ужо паказаліся астравы. Палеткі з азімымі ў пачатку сакавіка выглядалі вельмі добра. Можа, потым ім мароз нанёс шкоду, але гэтага яшчэ не відаць пад снегам. Аднак, нягледзячы ні на што, доўгая зіма, якая цягнулася амаль палову года, усё ж заканчваецца. Хаця ляжыць снег, і ў нас ужо чуваць набліжэнне вясны. У пачатку сакавіка ўжо спявалі жаўрукі, хаця потым з пахаладаннем змоўклі. Толькі крумкачы, вароны ды галкі выразна крычаць з раніцы да вечара. Зімой і іх не было чуваць. Здаецца, што яны па-свойму займаюцца палітычнай валтузнёй, звадкамі, як нашы паслы ў Соймс. Аднак, хаця і валтузяцца між сабой, лятаюць разам, часам збіраючыся ў вялізны чорны статак. Галкі – гэта ладныя зграбныя птушкі, якія маюць на галаве нібы чорныя хустачкі, а на шыі і на плячах – сівыя, астатняе цела ўкрыта нібыта чорнай птушынай шубай. Любяць трымацца каля чалавечага жытла.

А.Казлюк

Gazeta świateczna (Warszawa).
№ 2412, красавік 1927 г. Матэрыял
дасланы Алесем Хайноўскім з Глыбокага.

## Адкрываюцца палёты самалётаў

Браслаўчане пераканаліся ў перавазе паветранага транспарту над іншымі сродкамі. На самалёце можна хутка даляцець у любы горад нашай краіны. Адлегласць з Браслава да Віцебска, напрыклад, пакрываецца за паўтары гадзіны, а да Мінска ў паветры пасажыр знаходзіцца 1 гадзіну 35 мінут. Авіялініямі ў нас звязаны не толькі сталіцы рэспублік, абласныя і прамысловыя цэнтры, але і многія раённыя цэнтры.

З 15 мая адкрываюцца штодзённыя палёты самалётаў з Браслава да Віцебска і да Мінска. Першы маршрут праходзіць праз Ушачы, адпраўляецца самалёт з пасадачнай пляцоўкі ў 15 гадзін 10 мінут. Кошт білета да Віцебска 6 рублёў. Другі маршрут – на Мінск – праходзіць праз Паставы. Адпраўка самалёта ў 14 гадзін 45 мінут. Білет каштуе таксама 6 рублёў.

Р. Мацулевіч, начальнік пасадачнай пляцоўкі.
"Браслаўская звязда", № 55, 1970, 9 мая.

**Аляксандр Панцялейка**

# З гісторыі Слабодскага касцёла

Адным з прыгажэйшых храмаў на Браслаўшчыне безумоўна з'яўляецца касцёл у в.Слабодка. Бачны здалёк амаль у любое надвор'е ён прыцягвае да сябе чалавечае вока. Мастакі, вандроўнікі-турысты, асабліва ўлетку, трапіўшы ў нашыя краі імкнуцца пабачыць велічны бялюткі храм, аглядзець яго звонку і трапіць унутр. Здаецца за апошні дзесятак гадоў, не адно з культавых збудаванняў Браслаўшчыны не мела столькі рэкламы. А колькі было газетных артыкулаў, інфармацыі ў турыстычных даведніках і проста – вуснай інфармацыі, якая хутка разля-целася па краіне.

У энцыклапедыях, краязнаўчай літаратуры, сродках масавай інфармацыі касцёл называюць Сэрца Ісуса. Сучасны пробашч – кс.Уладзіслаў лічыць памылковай гэтую назву. Ён слушна прыводзіць доказы, што парафіяльны касцёл, які размяшчаўся ў цэнтры парафіі - Завер"і, быў асвечаны як касцёл Божага Провіду (Opatności Boskiej). Усе дакументальныя крыніцы канца XIX – пач.XX стст. падаюць гэтую назву. Ён меў галоўны алтар у імя Провіду Божага і два бакавыя алтары, адзін з якіх быў асвечаны ў імя Сэрца Ісуса. Пасля быў пабудаваны невялічкі храм у Слабодцы ў 1806 г. Ёсць падставы лічыць, што ён размяшчаўся на месцы сучаснага. Пасля пабудовы цяперашняга храма назва – касцёл Божага Провіду, павінна была перайсці да яго, бо храм у Завер"і пачаў прыходзіць у занядпад. На жаль пакуль нічога невядома аб абставінах яго асвячэння і таму кропку ў высвятленні «правільнасці» назвы касцёла ставіць яшчэ рана.


**Выява крыжа на касцёле паводле малюнка Д.Струкава. 1864 г.**

Як ужо адзначалася вышэй, першы будынак касцёла ў Слабодцы з'явіўся ў пач.XIX ст. У 1806 г. грошы на яго ўзвядзенне выдаткавалі ўладальнікі маёнтка Завер'е Мірскія, да якога адносілася Слабодка. Мураваны будынак быў невялікі і не захаваўся да нашых дзён. Архіўныя крыніцы даюць уяўленне аб знешнім выглядзе першапачатковага касцёла. Ён меў выразныя формы архітэктуры класіцызму: круглую ў плане форму, прамавугольную выступаючую апсіду (месца размяшчэння алтара), уваход з порцікам на чатырох калонах. Асноўны аб'ём быў пакрыты конусным дахам з двух'ярус-най вежачкай з шатром. Крыж гэтага касцёла ў 1864 г. замаляваў вядомы маскоўскі археолаг Дз.Струкаў. Тэрытарыяльна касцёл адносіўся да Заверскай парафіі. Напрыканцы XIX ст. ксяндзамі ў Завер"і былі Юзаф Шыдлоўскі, Зянон Варатынец.

Наступны, бадай адзін з самых значных перыядаў гісторыі касцёла – будаўніцтва храма ў пачатку



XX ст. Як зазначалі доўгажыхары, гэта стала магчымым дзякуючы намаганням "вельмі энергічнага ксяндза". У 1897 г. у Заверскую парафію прыслалі кс.Юзафа Шымовіча і пад яго кіраўніцтвам на працягу 1901-03 гадоў паўстаў новы будынак. Праўда, спачатку меркавалася павялічыць аб'ём – зрабіць прыбудову, аднак ад гэтага хутка адмовіліся. Будоўля ішла даволі хутка. Людзі згадвалі, што для пад'ёму будматэрыялаў на значную вышыню з боку Завер'я абсталявалі драўляныя насцілы па якім коньмі на падводах вазілі цэглу, дошкі і іншыя матэрыялы. Быў яшчэ адзін не зусім прыемны момант. Калі разабралі стары будынак, спадкаемцы Мірскіх падалі ў суд, аднак быў знойдзены кампраміс – у новы храм змясцілі памятныя дошкі ў гонар фундатараў Станіслава і Станіславы Мірскіх, якія можна ўбачыць і сёння.


**Ксёндз Юзаф Шымовіч**

Сучасны будынак абнесены моцнай каменнай агароджай, прываблівае цікавым архітэктурным вырашэннем. Неагатычныя элементы, найперш вокны-ружы

прыдаюць яму асаблівы каларыт. Каштоўнасць уяўляюць жалезныя акоўкі дзвярэй касцёла. Кожныя дзверы маюць свае непаўторныя завесы з расліннымі кампазіцыямі. Па некаторых звестках акоўку выканаў каваль з в.Вусце А.Пяткун.Што датычыцца ксяндза Ю.Шымовіча, то на жаль, звестак аб ім больш няма. Пасля яго смерці ўдзячныя парафіяне пахавалі яго побач з касцёлам.

Пасля яго парафію прыняў кс.Пётр Манькоўскі. Адначасова ён быў дэканам Браслаўскага дэканату. У пачатку 20-х гадоў яго прызначылі генеральным вікарыем Жамойцкага біскупства. Справа ў тым, што заходнія гміны Браслаўскага павету адносіліся да Ковенскай дыяцэзіі, а астатняя частка да Віленскай. Такая сітуацыя існавала да 1924 г. Згодна ўспамінаў тагачаснага браслаўскага старосты З.Янушкевіча, пра кс.Манькоўскага існавалі розныя меркаванні. За ім быў устаноўлены паліцэйскі нагляд, яго лічылі літоўскім шавіністам і ворагам палякаў. Аднак пазней, як адзначаў староста, гэтыя падазрэнні адышлі і асоба ксяндза запомнілася яму з самага лепшага боку.

10 лютага 1937 г. па прызначэнню біскупа прыехаў у Слабодку кс.Станіслаў Кудзярэўскі. Паходзіў ён з Беласточчыны, 1888 года нараджэння. Атрымаў адукацыю ў Віленскай духоўнай семінарыі, якую скончыў ў 1910 г. Пасвечаны ў 1911 г., адразу атрымаў пасаду вікарыя (1911-18) ў Тургельскім касцёле (сучасная тэрыторыя Літвы), пасля быў пробашчам (1918-29) у в.Данюшава (Смаргонскі раён). Што цікава, як адзначыў сам ксёндз у анкеце, якую запоўніў па загаду нямецкіх улад у 1942 г, у час працы ў Данюшаве ён прыйшоўся не даспадобы мясцоваму рэўкому і быў адпраўлены ў турму, спачатку ў Віцебск, пасля ў Тамбоў. Ксёндз адсядзеў 11 месяцаў з кастрычніка 1920 г. па верасень 1921 г. З 1929-га па 1937-ы гады служыў у Падбярэззі (Літва). Прыйшлося яму перажываць вайну ў Слабодцы. Пакуль што вельмі мала інфармацыі пра пасляваенны лёс ксяндза. Дакладна яго рэпрэсавалі, а касцёл зачынілі. Па дадзеных Маладзечанскага занальнага архіва ў спісе святароў Маладзечанскай вобласці, якія вярнуліся з лагераў у 1955-56 гг. значыцца "Кудзярэўскі Станіслаў Міхайлавіч, нараджэння 1888 г., былы ксёндз Слабодскаўскага касцёла Браслаўскага раёна, жыве ў в.Слабодка, зусім хворы і не ў стане выконваць абавязкі служыцеля культа". Памёр кс.С.Кудзярэўскі ў траўні 1960 г.

Наступным святаром стаў кс.Казімір Тамковіч. Нарадзіўся ён у 1910 г. на Вілейшчыне. Скончыў Вілейскую гімназію і Віленскую семінарыю. Прызначаны святаром у 1938 г. у м.Тургеле, пасля 10 год (1939-49) быў пробашчам у Опсе. У 1949 г. яго і большасць святароў рэпрасавалі па "знакамітаму" на той час артыкулу №72-а – за антысавецкую дзейнасць і варожасць да савецкай улады. Пакуль невядома, праз што прайшоў ксёндз. Вызваліўся ён толькі пасля смерці Сталіна ў 1953 г. Дарэчы Слабодскі касцёл прастаяў зачыненым няпоўныя тры гады. Пастанова Савета Міністраў БССР ад 24 красавіка 1952 г. прадугледжвала яго адкрыццё. У касцёле кс.Тамковіч пачаў служыць з 1956 г., аднак праз некалькі месяцаў "за парушэнне заканадаўства" быў зняты з рэгістрацыі (з 24.04.1956 па 24.07.1961) і адразу пераведзены ў Ваўкалацкі касцёл (Докшыцкі раён) замест кс.Гурскага.

10 ліпеня 1961 г. пробашчам прызначылі кс.Станіслава Гурскага. Нарадзіўся ён у 1909 г. на Смаргоншчыне. Атрымаў добрую адукацыю: скончыў Новавілейскую гімназію, пасля 2 гады правучыўся ў Віленскім універсітэце на факультэце прыродазнаўча-матэматычных навук і скончыў тэалагічны факультэт са ступенню "магістра". Пачаў сваю душпастырскую дзейнасць у гады ІІ-й сусветнай вайны вікарыем (1940-42) у Германавіцкім касцёле, пасля быў пробашчам у Канстанцінаўскім (1942-44) на Мядзельшчыне і доўгі час (1944-61) у Ваўкалацкім касцёле св.Яна Хрысціцеля. Слабодскі касцёл з'явіўся апошнім месцам службы кс.Гурскага. 25 год, да сваёй смерці ў 1986 г. ён выконваў свае абавязкі пробашча ў Слабодскім касцёле і пакінуў аб сабе шмат добрых памятак.



**Помнік ксяндзу С.Гурскаму на могілках у Слабодцы**

З 1986 г. па 2001 г. пробашчам быў кс.Эдвард Ахрамовіч, зараз – кс.Уладзіслаў Пятрайціс.

Па сённяшні дзень можна пачуць шмат гісторый пра роспісы інтэр'ераў касцёла. Што толькі не кажуць: што гэта – старажытныя фрэскі, праца вядомага мастака, што рабіліся яны на працягу 25 год, што касцёлы з падобнымі роспісамі ёсць толькі ў Партугаліі і Іспаніі. Але ж, пад час экскурсій многія наведвальнікі прыходзяць у захапленнне ад убачанага. У канцы 90-х гадоў, пачатку новага стагоддзя бадай кожная група турыстаў імкнулася пабачыць на свае вочы зробленыя роспісы. Цікава зазірнуць у гісторыю ўзнікнення роспісаў інтэр'ера храма.

Дзякуючы дакументам, якія захоўваюцца ў Віцебскім дзяржаўным архіве, ўдалося адшукаць некаторую інфармацыю па гэтай тэме. У нядаўна адкрытым "Фондзе ўпаўнаважанага па справах рэлігій" (Ф.1439) сярод іншых захоўваецца справа па Слабодскаму касцёлу. Акрамя агульнай інфармацыі і перапіскі ёсць некалькі цікавых дакументаў па правядзенню рамонтных прац і роспісу інтэр'ераў. З іх вынікае, што яны пачаліся ўлетку 1976 г. 12 жніўня быў складзены пісьмовы акт-дамова, якую ад імя ксцёла падпісаў старшыня камітэту Кажара Я.Ю. У акце пазначаны прозвішчы чатырох майстроў з Віцебску – Яўгена Саламонава, Леаніда Мясцова,

Уладзіміра Драгацэннага і Леаніда Пацея. Ім на розных стадыях і ў розныя часы дапамагалі мясцовыя жыхары. Агульнае кіраўніцтва за працамі ўзяў на сябе ксёндз Станіслаў Гурскі. Ён разам з мастакамі вызначаў тэматыку сюжэтаў. Зараз вельмі цяжка знайсці правільную версію адказу – чаму кс.Гурскі ініцыіраваў не проста рамонт унутранага памяшкання, а правядзенне такіх тонкіх і доўгатэрміновых прац. Найбольш распаўсюджана версія аб магчымай спробе закрыцця храма. Ксёндз адчуваў, што ён сам мае сталы ўзрост, што ўсё робіцца для таго, каб колькасць вернікаў змяншалася, ён бачыў прыклады закрыцця храмаў у Відзах, Опсе і такім чынам не дапусціць падобнага ў Слабодцы. Распачалася справа, якая робіцца не адзін год і можа расцягнуцца на некалькі. Між іншым жыхары згадвалі, што ўлетку да ксяндза некалькі гадоў запар прыязджалі мастакі, бо асноўныя працы вяліся толькі ў цёплы час.



**Від са званіцы касцёлу ў бок воз.Поцех.** ***Фота Э.Рыхтэра***

Але не ўсё ў гэтай справе было ідэальна. Згодна дакументам, праз пэўны час узнік канфлікт паміж ксяндзом і масткамі. Ксёндз абвінавачваў іх у несумленных адносінах, злоўжыванні спіртовымі напоямі. Былі зарэгістраваныя выпадкі калі мясцовы міліцыянер іх ушчуваў. Мастакі ў асобе Л.Пацея накіравалі скаргу, у якой казалася, што кс.Гурскі прапанаваў ім у якасці прымірэння замест абумоўленых дамовай 1200 рублёў немалыя на той час грошы ў памеры 10 тыс.рублёў. Мастакі расцанілі гэта як хабар і пыталіся – адкуль такія грошы? Далейшы ход падзей устанавіць не ўдалося, бо працяга гэтай справы дакументы не адлюстроўваюць. Відавочна кампетэнтныя органы правялі разгляд. Аднак, чым бы гэта гісторыя не скончылася, відавочна, што рамонт унутранага ўбранства і роспісы былі паступовa скончаны. Кс.С.Гурскі таксама застаўся і служыў у храме да сваёй смерці.

Гэты матэрыял толькі невялікі зрэз гісторыі Слабодскага касцёла. Застаецца яшчэ шмат загадак і трэба спадзявацца, што іх будзе ўсё меней.

************************************************************************

# МАБІЛІЗАЦЫЯ Ў МЁРАХ - 1941 г.

*З цікавасцю прачытаў матэрыял В.Елісеева «Дзезерціры» , у якім асвятляецца пакуль яшчэ амаль некранутая тэма часоў II сусветнай вайны. Са свайго боку прапаную ўвазе чытачоў матэрыял заснаваны на аповядзе В.А.Багдановіча аб мабілізацыі ў 1941 г.*

***Валерый Каралёў***

Савецкая ўлада яшчэ здолела распаўсюдзіць павесткі і ў вызначаны дзень дзядуля разам з некалькімі аднавяскоўцамі накіраваўся з Ваўкоўшчыны «на фронт». Зразумела, што настрой у ідучых быў кепскі. Кожны думаў аб пакінутых родных, аб змрочнай няўпэўненасці ў будучым, аб вельмі верагоднай смерці.

Мабілізацыйны пункт быў уладкаваны ў былым маёнтку Станулева непадалёк Мёраў, куды па адным ці невялікімі купкамі цягнуліся пахмурныя, прыгнечаныя, будучыя абаронцы «радзімы ўсіх працоўных».

Тут супрацоўнікі ваенкамата рэгістравалі прыбываючых. Працавала агітбрыгада з некалькіх камсамольцаў, якія імкнуліся «узняць маральна-палітычны дух» прыбываючых. Не вельмі ўмелы гарманіст жвава цягаў мяхі гармоніка, а нейкая камсамолка ў чырвонай хустцы, завязанай на галаве «па-пірацку», з вялікім імпэтам выцягвала то вядомыя савецкія песні, то з заліхвацкім пагвіздваннем страпаліла камуністычныя частушкі, прытопваючы, прыхлопваючы, а іншы раз нават пакручваючыся ў нейкім падабенстве танца. Гэткі «канцэрт» у вачах штораз большаючага натоўпу змабілізаваных выглядаў абразліва, дзіка і фантасмагарычна. Савецкая ўлада для большасці будучых воінаў нават пасля 20-гадовага вопыту жыцця ў «бела-панскай» Польшчы так і не стала сваёй, «роднай», Сталін успрымаўся не лепш, чым маршалак Пілсудскі. Але гэтая ўлада хутка і жорстка прымусіла і прывучыла пакорліва, моўчкі падпарадкоўвацца ёй. Разумелі мужыкі і тое, што распачаўшаяся вайна – перш за ўсё «вайна Гітлера са Сталіным», але размовы на гэткія тэмы асмельваліся весці толькі ў сваім, бездакорна давераным коле сваякоў і сяброў.

Бліжэй да вечара прайшло агульнае пастраенне. Вайсковец (хутчэй за ўсё ваенком) сказаў «речь», вытрыманую ў звычайным агітпропаўскім стылі. Змабілізаваных завялі ў вялікую пуню, дзе яны мусілі пераначаваць. Дзверы пуні заперлі звонку на замок, а ўздоўж сцен была выстаўлена ўзброеная «трохлінейкамі» варта. Цяжкая гэта была ноч. Амаль ніхто не вячэраў – не было апетыту. Патроху клаліся спаць, падсоўваючы пад галовы клункі з сабранымі мацяркамі і жонкамі няхітрымі сялянскімі пачастункамі: хлебам, цыбуляй, салам. Уначы многія стагналі, трызнілі, іншыя, прымружыўшы вочы, імкнуліся задрамаць, часта

пераварочваючыся з боку на бок. Бліжэй да раніцы цяжкі, неспакойны сон ахапіў усіх. Па спрадвечнай сялянскай звычцы пачалі падхопліваца рана, на золаку, сталі чакаць, калі адкрыюцца дзверы і будзе пададзена каманда выходзіць.

Але час пакрысе ішоў, усё больш святлела і было бачна, што сонца ўзнялося ўжо досыць высока, а ніхто не клацаў ключом у навясным замку, не чувалася ніякіх галасоў, каманд. Той-сёй з найбольш адчайных ці нецярплівых пачалі выглядваць праз шчыліны ды дзіркі ў страсе. Двор быў пусты. Убачыўшы непадалёк нейкую мясцовую жанчыну, падазвалі яе бліжэй і даведаліся, што з начы ў Мёрах няма аніякай улады. Пакінуўшы партыю змабілізаваных ў зачыненай пуні, збеглі патаемна ноччу на ўсход і ваенком, і тыя ўзброеныя ахоўнікі, і камсамольскія актывісты з чырвонахустачнай сваёй «спявачкай». Збіўшыся ў натоўп, мужыкі выламалі дзверы і хутка пачалі разыходзіцца па дамах, па вёсках. Вялікай радасці не было. Кожны разумеў, што наперадзе – цяжкія часы акупацыі. Некаторыя добра памяталі часы папярэдняй нямецкай акупацыі падчас першай сусветнай, іншыя ўсведамлялі яе па аповядах старэйшых.

Але была надзея, што магчыма ўдасца перажыць гэтую навалу, не згубіць родных і блізкіх, не расцярушыць гаспадарку. Наперадзе ў кожнага быў свой, часам трагічны лёс.

# ГЕОРГІЕЎСКІ КАВАЛЕР

**Валерый Каралёў**

*"Георгіеўскі крыж – вышэйшая ступень адзнакі за асабістыя заслугі, звязаныя са здзяйсненнем геранчнага подзвігу" – так тлумачыць энцыклапедыя гэтую ўзнагароду былой Расіі.*



Міхаіл Мацвеевіч Багдановіч нарадзіўся чацвёртым дзіцём у сялян в.Ваўкоўшчына Мацвея і Агаты Багдановічаў. Дзіцячыя ўражанні Міхаіла акрамя роднай вёскі звязаныя і з Ліпаўкай, Хібаўшчынай, Змітракамі, дзе бацька арандаваў зямлю, бо свой зямельны надзел быў невялікі – 6,5 дзесяцін. У сям'і, акрамя старэйшых Піліпа, Паліны, Аркадзя і Міхаіла, нарадзілася яшчэ дзве дачкі – Хрысціна і Ганна. Дакладная дата нараджэння героя першай сусветнай вайны невядома. Хутчэй за ўсё, гэта быў канец 70-х ці пачатак 80-х гадоў XX стагоддзя.

Перад пачаткам руска-японскай вайны 1903-1904 гг. Міхаіл ужо служыў у войску, дзе і вырашыў застацца пасля тэрміновай службы. Вяртанне ў паўгалодную вёску, дзе панавала беззямелле, зусім не прыцягвала хлопца. Вайскова частка, дзе служыў Міхаіл, – 3-ці Драгунскі Навацасійскі Яе Імператарскай Высокасці Княгіні Алены Уладзіміраўны полк. Размяшчаўся ён у Коўне (Каўнас).

Пачалася першая сусветная вайна. М.М.Багдановіч у чыне падпрапаршчыка знаходзіўся ў дзеючым войску. Адважныя рэйды кавалерыстаў, горыч адступленняў, кароткія прывалы паміж баямі, смутак аб загінуўшых баявых таварышах – усё гэта поўнай мерай адмерваў яму лёс. А на грудзях бравага падпрапаршчыка да некалькіх медалёў дабаўляліся крыжы Святога Георгія – першы, другі, трэці, чацвёрты. Адным словам – поўны камплект. Зразумела, што трэба было быць сапраўдным героем і шчаслівіцам, каб атрымаць поўны камплект гэтага ордэна. Вядома, што ў час ваенных дзеянняў пад Міхаілам Мацвеевічам было забіта тры кані.

У яго лістах з фронту, што захаваліся ў родных, чуецца чалавечая горыч з таго, што ідзе вайна, гінуць ні ў чым не вінаватыя людзі. Ён лічыць вайсковую справу, рамяство вайскоўца – неабходным, але крывавым рамяством. Таму родныя ніколі не чулі ад Міхаіла Мацвеевіча расказаў пра франтавыя будні. Напэўна, успаміны аб іх, пачуцці, звязаныя з імі, былі занадта горкімі і сумнымі, каб дзяліцца з іншымі.

Надышоў 1917 год. Пасля лютаўскай рэвалюцыі Міхаіл Мацвеевіч паступае на службу ў міліцыю Петраграда. На той час у Петраградзе ўжо жылі з сем'ямі брат Аркадзь і сястра Хрысціна, якія збеглі ад галечы і беспрасветнасці ў пошуках працы і лепшай долі. І брат, і муж сястры мелі неблагую працу, у сем'ях панаваў дастатак. Іх дзеці, пляменнікі Міхаіла Мацвеевіча, пачыналі атрымліваць як на той час неблагую адукацыю. Але надышоў кастрычнік 1917 года. Менавіта 25 кастрычніка Міхаіл Мацвеевіч сабраў усіх пляменнікаў і начысціўшы ўзнагароды, але схаваўшы ў кішэнь медалі, павёў усіх фатаграфавацца ў фотаатэлье на Вялікім праспекце на Петраградскім баку. У Петраградзе панавала безуладдзе, п'яныя матросы, з'яўляліся раптам у вялікай колькасці на вуліцах горада, часта рабілі самасуды над усімі падазронымі, а іншы раз і бессаромна рабавалі. У гэткай сітуацыі чатыры "Георгія", што зіхацелі на грудзях малодшага чына, служылі своеасаблівай індульгенцыяй у асяроддзі бравых, але акаселых ваяк, а вось медалі маглі пашкодзіць – як сведчанне добрасумленнай службы "старому рэжыму". З гэтага дня і захаваліся апошнія здымкі Міхаіла Мацвеевіча.

Адразу пасля кастрычніцкага пераварота на кароткі тэрмін ён прыязджае ў родную вёску, але хутка вяртаецца ў Петраград, адкуль разам з сям'ёй свайго знаёмага накіроўваецца праз усе завірухі грамадзянскай вайны на Далёкі Усход. Але новая ўлада хутка ўсталёўваецца і тут. Вядома, што ў 20-х гадах Міхаіл Мацвеевіч знаходзіўся ў Хабараўску, служыў у міліцыі.

Сястра Хрысціна і брат Аркадзь перад пагрозай галоднай смерці вяртаюцца з сем'ямі ў родную вёску. Хутка мяжа паміж Савецкай Расіяй і адроджанай Польшчай перарывае ўсе кантакты паміж роднымі.

Пэўна, у Маскве, у Крамлі, у аднаўленай Георгіеўскай зале, сярод шматлікіх іншых прозвішчаў Георгіеўскіх кавалераў, выбітых залатымі літарамі на мармуровых дошках, змешчана і прозвішча – Міхаіл Мацвеевіч Багдановіч.

Аўтар гэтых радкоў, зрабіўшы запрос ў ваенна-гістарычны архіў, атрымаў толькі за пачатак пошукаў звестак аб М.М.Багдановічы прапанову пералічыць такую суму грошай, што быў вымушаны адмовіцца ад сваёй задумкі.

Але засталіся лісты, фотаздымкі Міхаіла Мацвеевіча. І памяць.

## Выдавецкія навіны

Напачатку 2004 года ў Маладзечне выйшаў зборнік вершаў нашага земляка Мікалая Мікалаевіча Даргеля "Грустинка в тишине". Дарэчы, гэта ўжо другая кніжка паэзіі аўтара. Першая пад назвай "Тебе поклон, мой дом родимый" выйшла ў свет у 2001 годзе.




М.М.Даргель нарадзіўся ў 1941 годзе ў вёсцы Дварышча Мёрскага раёна. Пасля заканчэння Ваўкоўскай сямігодкі працягнуў вучобу ў Мінскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме. Працаваў рабочым, майстрам. Пасля заканчэння Мінскага палітэхнічнага інстытута працаваў прарабам, галоўным тэхнолагам, кіраўніком будупраўлення, на іншых кіруючых пасадах. Сёння працуе дырэктарам Маладзечанскай СПМК.

Увогуле, нячастая з'ява, каб чалавек, прысвяціўшы ўсё сваё жыццё шляхетнай, але далёкай ад літаратуры справе будаўніцтва, здолеў бы сказаць сваё важкае слова і ў паэзіі. Мікалаю Мікалаевічу гэта спаўна ўдалося. Новы зборнік аўтара складаецца з блізка каля ста паэтычных твораў на беларускай і рускай мовах.

Вялікі пласт у творчасці Мікалая Мікалаевіча складае тэма роднай вёскі, маленькай Радзімы, успамінаў аб дзяцінстве, юнацкіх гадах. Душэўным цяплом і ціхім смуткам прасякнуты радкі:

*"Вось за ўзгоркам вёска*
*Вечарам ціхім стаіць –*
*Колькі прапылена вёрстаў,*
*Зноў каб з табой гаварыць..."*

Шчодрай узаемнай любоўю заўсёды прасякнутыя радкі, прысвечаныя радкі, прысвечаныя матулі і бацьку.

*Вы – майго сэрца пяшчота,*
*Промень скрозь цемру тугі,*
*Тут мне няма адзіноты...*

Вялікім, шматгранным паэтычным палатном з'яўляецца паэма "Вялікдзень". Праз радаснае, аптымістычнае апісанне найвялікшага хрысціянскага свята ў беларускай вёсцы аўтар падводзіць чытача да філасофскіх разважанняў аб сэнсе жыцця, аб дабры і зле, аб чалавечых пачуццях і неабходнасці імкнення да шчасця.

Увогуле, вялікае месца ў творчасці Мікалая Даргеля займае любоўная лірыка. Але яна мае адметную рысу. Нават праз гумар, гарэзлівасць яскрава бачна пачуццё чалавека, маючага багаты жыццёвы вопыт, на жыццёвых пуцявінах не разгубіўшага найлепшыя парывы душы, але ўдасканалеўшага іх.

Сакавітым народным гумарам аж іскрацць вершы "Як мы дачу будавалі", "Угадай, дзе спатыкнешся", "Як Язэп адзначыў госці" і іншыя.

Багаты запас пражытых гадоў і набытая жыццёвая мудрасць дазваляюць паэту перадаць свае роздумы аб розных жыццёвых калізіях, прыцягнуць увагу чытача да асэнсавання тых філасофскіх, маральных, этычных катэгорый, на якія ў будзённым жыцці звычайна не звяртаецца ўвага. І заўсёды ў вершах гучыць аптымізм, вера ў чалавека, у тое лепшае, што ў чалавеку ёсць.

*Так не пускай в душу унынье.*
*Бодрей чтоб был твой трудный шаг.*
*Пошли себе сам снисхожденье –*
*Ты – человек, ты – светлый маг!*

Сустракаюцца ў вершах і знаёмыя ўсім нам назвы – Дварышча, Пушалаты, Гэўда, Пустошка, Мёры, а "ціхай станцыі Зоры", былому чыгуначнаму прыпынку Купчалёва, адкуль падаваліся ў 40-80-я гады юнакі і дзяўчаты "у свет" з вялікай ваколіцы Новага Пагоста, прысвечаны верш "Ціхія зоры".

Напэўна, дапытлівы і прынцыповы крытык зверне ўвагу на "неакадэмічнасць" паэзіі Мікалая Мікалаевіча, знойдзе пэўныя дробныя хібы вершаскладання, "адсталасць" ад сённяшняй паэтычнай "моды". Але ён не будзе ў стане адмовіць самабытнаму паэту ў пранікнёнасці, адчуванні паэтыкі слова, душэўнай шчырасці, развазе і імкненню сваёй паэзіяй прыўнесці ў сённяшняе жыццё хаця б крышачку больш святла і цяпла. А напэўна ў гэтым і заключаецца галоўная задача паэзіі.

Застаецца пажадаць Мікалаю Мікалаевічу Даргелю новых творчых поспехаў, а аматарам паэтычнага слова – прыемных хвілін знаёмства з новым зборнікам вершаў.

В.К.

## ПОМНІКІ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



**Дабравешчанская царква ў Друі**

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)